ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 83(5265)
Чацвер, 26 ліпеня 2001 года

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

Кошт у розніцу — 51 руб.





## Замежная мова: мода ці неабходнасць?

Гарачыня стаіць не толькі на вуліцах, але і ў калідорах, аўдыторыях вышэйшых навучальных устаноў краіны. Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М.Танка — не выключэнне. Стомленыя ад спякоты і душэўнай напружанасці абітурыенты здаюць уступныя экзамены.

У сувязі з тым, што ў гэтым годзе абітурыентам дадзена магчымасць падаваць дакументы і здаваць іспыты адразу ў некалькі навучальных устаноў, намаляваць поўную карціну працы прыёмнай камісіі амаль немагчыма. Тым не менш у педагагічны універсітэт пададзена каля чатырох тысяч заяў на 1573 месцы. Самымі папулярнымі спецыяльнасцямі сталі тыя, якія звязаны з замежнай мовай: "Гісторыя і замежная мова" (прыблізна чатыры чалавекі на месца); "Педагогіка і методыка пачатковага навучання і замежная мова" (шэсць чалавек на месца). Асабліва вызначыўся факультэт беларускай філалогіі і культуры, конкурс на які складае ад чатырох да дзесяці чалавек, што, безумоўна, падымае яго прэстыж. Самыя папулярныя спецыяльнасці на факультэце — "Англійская мова і беларуская мова і літаратура" (дзесяць чалавек на месца) і "Нямецкая мова і беларуская мова і літаратура" (каля шасці чалавек на месца).

У параўнанні з мінулымі гадамі ўзрос конкурс на факультэт рускай філалогіі (дзесьці тры чалавекі на месца) і знізіўся на факультэт сацыяльнай педагогікі і практычнай псіхалогіі — на спецыяльнасці "Сацыяльная работа" (прыкладна 1,5 чалавека), "Практычная псіхалогія і замежная мова" (тры чалавекі), што даволі дзіўна: яшчэ пару гадоў таму гэта быў самы папулярны факультэт.

Новаўвядзенне гэтага года (магчымасць паступаць адразу ў некалькі ВНУ краіны) у параўнанні з мінулым годам павысіла конкурс на ўсе спецыяльнасці ў 1,5 раза. Да таго ж чатыром вышэйшым навучальным установам (у т.л. і БДПУ імя М.Танка) Дзяржаўная камісія па кантролі ўступных экзаменаў у ВНУ і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы ў 2001 годзе дазволіла мяняць расклад экзаменаў для тых, хто адначасова паступае ў некалькі навучальных устаноў. У педагагічны універсітэт паступаюць абітурыенты БДУ (каля ста чалавек) і два абітурыенты Акадэміі ўнутраных спраў. Новаўвядзенне адбілася і на лёсе тых, хто паступае на платную форму навучання — тэрмін прыёму дакументаў прадоўжаны да 29 ліпеня.

Прыемна тое, што айчынная адукацыя прываблівае і замежных абітурыентаў. У мінулым годзе ў педагагічны універсітэт імя М.Танка паступілі чатыры в'етнамкі: дзве — на факультэт рускай філалогіі і дзве — на музычна-педагагічны факультэт. Сёлета па рэкамендацыі беларускіх суполак, а таксама па дамоўленасці паміж дзяржавамі па-за конкурсам у Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М.Танка будуць прыняты выпускнікі беларускіх гімназій Польшчы, Малдовы і Літвы. Цікавым з'яўляецца той факт, што чакаецца група кітайцаў (пяцьдзесят чалавек), якая будзе прынята на падрыхтоўчае аддзяленне.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М.Танка ідуць уступныя экзамены.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**




Лета–2001

## Ці адпачываюць настаўнікі?

***Лета — заўсёды пара адпачынкаў. Хтосьці едзе на мора, хтосьці — у санаторый, а нехта проста на прыроду (на Беларусі ёсць шмат цудоўных мясцін). Цікава, а як адпачываюць настаўнікі?***

**Галіна Пятроўна Шрамук, намеснік дырэктара па пачатковых класах сярэдняй школы № 10 Мінска:**

— Так атрымалася, што ў свой адпачынак я працую. Каб адпачываць, трэба мець сродкі, а заробак настаўніка самі ведаеце які, таму калі і адпачываць, то на тэрыторыі нашай рэспублікі. У гэтым годзе ў мяне адпачынак — разрыўны, таму частку я ўжо "праадпачывала". Спадзяюся, што ў жніўні, пасля рамонту ў школе, змагу яшчэ перадыхнуць. Адпачынак, канешне ж, праведу на дачы, трэба будзе збіраць ураджай, рабіць нарыхтоўкі на зіму. Да таго ж неабходна падрыхтавацца да навучальнага года — планаванне займае шмат часу. Зробіш гэта ў час адпачынку — лягчэй будзе ў верасні.

**Надзея Дзмітрыеўна Дудо, выхавальніца груп прадоўжанага дня сярэдняй школы № 10 Мінска:**

— Адпачынак у нашай сям'і заўсёды плануецца. Кожны год мы, па магчымасці, выязджаем адпачываць у межах Беларусі. У гэтым годзе збіраемся ў Азярышча, што на Віцебшчыне. Усталюем невялікі палатачны летнік, у якім і будзем жыць. Азярышча — казачная мясціна: возера знаходзіцца ў лесе, можна нават сустрэць мядзведзя. Вельмі цікава дзецям — непасрэдныя стасункі з прыродай. Цывілізацыя застаецца далёка за межамі лесу. Гэта вельмі спрыяе душэўнай раўнавазе.

**Галіна Ізыдораўна Жукоўская, настаўніца харэаграфіі сярэдняй школы № 33 Мінска:**

— У мяне таксама разрыўны адпачынак. Першую яго частку я займалася рамонтам у кватэры, які рабіла самастойна. Давялося асвойваць і іншыя прафесіі. Зараз я працую ў школьным летніку. Рэшту свайго адпачынку прысвячу заканчэнню рамонту, а потым паеду ў вёску да бацькоў — на прыроду.

**Марына Валянцінаўна Кулік, настаўніца гісторыі, педагог-арганізатар сярэдняй школы № 33:**

— Першая частка майго адпачынку прайшла ў вёсцы, на бацькаўшчыне. Зараз я працую. Мая дачка ў гэтым годзе скончыла сярэднюю школу і паступае ў вышэйшую навучальную ўстанову. Я павінна падтрымаць яе, быць побач. Скончацца ўступныя экзамены, і мы паедзем зноў адпачываць у вёску. Там — прырода, чыстае паветра, забываеш пра ўсе гарадскія хваробы.

**Алена Аляксандраўна Васільцова, настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 4 Мінска:**

— Кожны настаўнік свае "летнія канікулы" праводзіць паразнаму. Шмат хто едзе працаваць у летнікі, але гэта, на мой погляд, не зусім адпачынак. Мы з сям'ёй планавалі паехаць у Юрмалу, але фінансаў не хапае. Муж змог узяць пуцёўкі ў санаторый-прафілакторый у Гарадзішча, таму паедзем адпачываць усёй сям'ёй туды.

**Жанна Анатольеўна Паланевіч, настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 4 Мінска:**

— Паколькі мой заробак не дазваляе мне куды-небудзь паехаць, то адпачынак праводжу дома. Разам з дачкой ладзім прагулкі ў парках Мінска. На выхадныя выязджаем у лес па ягады, падыхаць чыстым паветрам, аддаліцца ад гарадской мітусні. Дачы ў мяне няма, магчымасці паехаць у вёску — таксама, таму я вымушана абмяжавацца паездкамі за горад.

*Як бачым, адпачынак настаўнікаў не вызначаецца асаблівай разнастайнасцю. Пра тое, каб паехаць адпачыць на мора, і гаворкі няма, не ўсе маюць магчымасць атрымаць пуцёўку ў санаторый. Я звярнулася ў аддзел адукацыі Ленінскага раёна Мінска з пытаннем: якая вядзецца праца па арганізацыі адпачынку настаўнікаў?*

**Марыя Уладзіміраўна Сарока, намеснік кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна Мінска:**

— З 2000 года ў нас існуе ўпраўленне па аздараўленні, якое займаецца арганізацыяй адпачынку настаўнікаў у санаторыях. Упраўленне выдае датацыю на кожную пуцёўку. Ёсць 10-30-працэнтная аплата пуцёўкі. У гэтым годзе яе кошт складае 313 тысяч рублёў, але настаўнік плаціць толькі 30 працэнтаў. Пад увагу бярэцца памер заработнай платы і пара года. Каб атрымаць пуцёўку, трэба загадзя падаць заяву і медыцынскую даведку, якая пацвердзіць, што заяўніку неабходны адпачынак і санаторнае лячэнне. Да таго ж існуе яшчэ і чарга. З першага студзеня 2001 года было выдадзена 52 пуцёўкі.

*Вядома, што ў санаторый едуць не толькі адпачыць, але і падлячыцца. Высветлілася: самымі распаўсюджанымі хваробамі сярод настаўнікаў з'яўляюцца захворванні сардэчна-сасудзістай, нервовай сістэм і апорна-рухальнага апарата. Напэўна, такія ўжо прафесійныя хваробы ў нашых настаўнікаў. Таму неабходна, каб у Рэспубліканскім цэнтры па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні гэтаму ўдзялялі больш увагі.*

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Да новага навучальнага года

## З дапамогай шэфаў і бацькоў

***У Слоніме нямала робіцца для таго, каб своечасова былі гатовы да новага навучальнага года ўсе дзевяць школ, гімназія, санаторная школа-інтэрнат, а таксама дашкольныя ўстановы.***

Практычна ўжо абноўлены класныя пакоі, у якіх перафарбаваны парты, сталы, зроблены касметычны рамонт. Ідуць падобныя работы і ў сталоўках. Гэтым займаюцца спецыяльныя брыгады, створаныя з ліку вучняў. Адначасова добраўпарадкоўваюцца тэрыторыі, прыводзяцца ў парадак кветнікі.

Гаворачы аб падрыхтоўцы да новага навучальнага года, загадчык гарадскога аддзела адукацыі Аркадзь Бумагін з задавальненнем адзначыў, што свой уклад уносяць і шэфы — прадпрыемствы Слоніма. Істотную дапамогу аказалі калектывы прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, фабрыкі "Тэкстыльшчык", упраўлення магістральных газаправодаў, вінзавода, друкарні, акцыянерных таварыстваў "Слонімскі мясакамбінат", "Кардонна-папяровы завод", "Слонімскі водаканал", якія ўзначальваюць К.С.Зубко, Т.В.Жыткевіч, Ю.В.Бяссонаў, М.В.Акулік, А.А.Лагуцік, А.Р.Бярдула, Л.Ф.Шкляр, В.В.Шкодаў.

Пры рамонце памяшканняў дашкольных устаноў звяртаецца ўвага на стварэнне здаровых і бяспечных умоў для выхаванцаў, праводзіцца ўважлівая рэгуліроўка ацяпляльных сістэм. Дарэчы, пазашкольныя ўстановы і дзіцячыя садкі таксама знайшлі фундатараў і з іх падтрымкай абнаўляюць памяшканні, мэблю.

Па магчымасці невялікія сумы для набыцця будматэрыялаў і на рамонт школ выдзяляюцца і з гарадскога бюджэту.

У сярэдзіне жніўня школы будуць гатовы да пачатку новага навучальнага года.

— А што з рамонтам сельскіх школ? — пра гэта я спытаў у загадчыцы раённага аддзела адукацыі Галіны Шмялёвай. Галіна Іванаўна адказала:

— Падрыхтоўка школ у вёсках — у самым разгары, актыўна ўдзельнічаюць у гэтай справе бацькі вучняў. Бюджэтнымі сродкамі амаль не карыстаемся.

Сапраўды, у гэты летні час у мясцовым бюджэце бедна, ледзь з педагогамі-адпускнікамі разлічыліся, а тут яшчэ і гаспадарчыя праблемы. І усё ж у школах раёна нямала робіцца ў падрыхтоўцы да новага навучальнага года. Вось, напрыклад, Міжэвіцкая сярэдняя школа, якую ўзначальвае М.В.Пазняк. Класныя пакоі там цалкам падрыхтаваны да заняткаў. Усё зроблена бацькамі, за іх сродкі, а дапамаглі вучні. У некалькіх класах нават устаноўлены новыя сталы і крэслы, праўда, гэтая мэбля атрымана з аддзела адукацыі.

Абыякавых бацькоў у вёсках няма. Усе разумеюць сённяшнюю сітуацыю і дапамагаюць сваім школам. Гэта пацвердзіла і дырэктар Вялікашылавіцкай сярэдняй школы Зоя Сяргееўна Зімніцкая, з якой я гутарыў.

Словам, сродкі і магчымасці знаходзяцца. Ёсць упэўненасць, што і гарадскія, і сельскія школы Слонімшчыны будуць па-гаспадарску падрыхтаваны да новага навучальнага года і 1 верасня сустрэнуць сваіх вучняў свежасцю ды абнаўленнем.

**Сяргей ПРАСНЯК.**

Абітурыент–2001

## Пра што мараць Лена і Маша

***Мінскае вышэйшае прафесійнае вучылішча бытавога абслугоўвання насельніцтва месціцца ў зялёным масіве горада, таму сустракае сваіх наведвальнікаў ратаўнічай прахалодай. Радуюцца сонечнаму цяплу толькі горачаўстойлівыя кветкі, якія аздабляюць аранжавай квеценню будынак установы. Але гарачае "дыханне" прыёмнай кампаніі нягледзячы на цянёк адчуваеш адразу з парога.***

Сёння тоўпяцца ля дзвярэй камісіі толькі дзяўчынкі. Іншым днём сустрэнеш тут нямала і хлопцаў.

Вось дзве сяброўкі, Лена і Маша, выпускніцы адной з мінскіх школ, старанна групуюць дакументы для здачы. Іх атэстаты аб сярэдняй адукацыі стракацяць пяцёркамі ды чацвёркамі.

Але дзяўчынкі і не настройваліся на інстытуты. Мара стаць мадэльерамі ў іх набыла больш рэальныя абрысы ў час навучання ў вучэбна-вытворчым камбінаце па прафесіі краўца, дзе яны атрымалі ўжо другі разрад. А ў поўнай меры рэалізаваць свае памкненні ім параілі ў вядомым у рэспубліцы ВПВ бытавога абслугоўвання насельніцтва.

Магчымасць развіць талент у галіне швейнага мастацтва тут можна лічыць ідэальнай. Вучоба краўцоў праходзіць у вучылішчы па дзвюх ступенях. Спачатку фарміруюцца па гэтай прафесіі аж шэсць навучальных груп. За два гады падлеткі асвойваюць прафесіі краўца і закройшчыка. Лепшыя выхаванцы, творча адораныя і працавітыя, будуць навучацца ў асобнай групе яшчэ два гады і атрымаюць дадатковую прафесію — мадэльер-канструктар-прадпрымальнік.

Першы выпуск спецыялістаў сярэдняга звяна швейнай вытворчасці адбудзецца ў новым навучальным годзе. А мінулы навучэнцы другой ступені завяршылі абаронай курсавых работ, якая перамяжоўвалася з прадстаўленнем мадэляў асноўнага праекта і беларускіх нацыянальных касцюмаў. Запрошаныя на экзамены бацькі навучэнцаў, работнікі вучылішча, прадстаўнікі вядучых швейных прадпрыемстваў і мадэльных агенцтваў былі прыемна ўражаны бязмежнай фантазіяй, творчым уздымам, высокім палётам талентаў маладых куцюр'е.

Лепшыя экспанаты народнай творчасці папоўняць вучылішчны музей швейнага мастацтва, дзе ўжо захоўваюцца сапраўдныя шэдэўры. Музей па праве лічыцца каштоўным здабыткам і высокім гонарам нашай прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Такую высокую ацэнку заслугоўвае і сама ўстанова, якую ўзначальвае прыроджаны педагог і арганізатар, заслужаны работнік адукацыі Тамара Аляксандраўна Раеўская.

Высокі прэстыж гэтага вучылішча складваўся гадамі з напружанай працы яго дырэктара, калектыву самаадданых, творчых супрацоўнікаў. Іх інавацыйныя знаходкі па ажыццяўленні навучальна-выхаваўчага працэсу сталі здабыткам прафтэхсістэмы ўсёй нашай рэспублікі. Вялікая ўвага надаецца ва ўстанове абнаўленню і ўдасканаленню вучэбна-вытворчай базы. З новага навучальнага года пачне працаваць швейная майстэрня, абсталяваная самымі сучаснымі машынамі. На чарзе — і вучэбны кабінет канструявання. А ўвогуле ўся матэрыяльная база знаходзіцца тут у належным парадку, майстэрні і кабінеты прызабліваюць утульнасцю і акуратнасцю, разнастайнасцю і даступнасцю наглядных дапаможнікаў. Найбольш прыцягальная — камп'ютэрная сістэма ўстановы. Яна захоўвае ў памяці інфармацыю пра швейную вытворчасць усяго свету, тысячы ўзораў мадэляў знакамітых фірм, фотаздымкі і біяграфіі вядомых куцюр'е і шэраг іншых звестак.

Трывалай і насычанай можна лічыць тут і метадычную базу, якая стварае надзейны падмурак дзейнасці як выкладчыкаў, так і майстроў вытворчага навучання. Структура метадычных органаў складаецца з некалькіх асноўных напрамкаў: работы педагагічнага савета, метадычных камісій, школы маладога майстра, інструкцыйна-метадычных нарад, семінараў-практыкумаў.

На якасць прафесійнай падрыхтоўкі будучых спецыялістаў эфектыўна ўплывае і вытворчае навучанне, заснаванае па выпуску карыснай прадукцыі ў майстэрнях. Навучэнцы выконваюць індывідуальныя заказы, якія вызначаюцца высокай тэхналогіяй выканання. Нездарма ж у вучэбным атэлье заўжды чэргі заказчыкаў, а кніга водгукаў стракаціць сардэчнымі "дзякуй".

Творчасць выхаванцаў знаходзіць сабе жыватворную крыніцу ў шматлікіх конкурсах і фестывалях моды. Навучэнцы ўстановы з'яўляюцца іх пастаяннымі ўдзельнікамі і пераможцамі. На нядаўна праведзеным Рэспубліканскім злёце рацыяналізатараў і вынаходнікаў 12 тэхналагічных распрацовак мадэляў заслужылі самай высокай ацэнкі.

Таму і не дзіўна, што ВПВ бытавога абслугоўвання насельніцтва ніколі не ведае праблемы працаўладкавання сваіх выпускнікоў. Больш трыццаці прадпрыемстваў швейнай вытворчасці з задавальненнем прымаюць у свае працоўныя калектывы выпускнікоў гэтай установы. А ў наступным годзе іх рады папоўняць і мадэльеры-канструктары.

Мажліва, у хуткім часе сярод іх будуць сённяшнія абітурыенткі вучылішча — Лена і Маша.

**Ала КЛЮЙКО.**

Новыя падыходы

## Сацыяльна-педагагічны комплекс: усе радасці разам

***Сучасны стан грамадства і сістэмы адукацыі ў краіне пастаянна патрабуе новых, больш эфектыўных падыходаў да пытанняў навучання і выхавання маладога пакалення. Сёння актуальны прынцып дыферэнцыявання і рэгіянальнасці ў стварэнні выхаваўчых сістэм розных навучальных устаноў.***

Рэгіянальныя праграмы даюць магчымасць больш дакладна ўлічваць асаблівасці выхаваўча-адукацыйнай прасторы, куды ўваходзяць сям'я, школа, сацыяльнае асяроддзе, дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі і нават экалогія рэгіёна, дапамагаюць кваліфікавана і эфектыўна выкарыстоўваць не толькі ўнутраныя педагагічныя рэзервы, але і прыцягваць да справы іншыя структуры, размешчаныя ў даным рэгіёне.

У гэтым артыкуле пойдзе гаворка пра вучэбна-выхаваўчую ўстанову новага тыпу — сацыяльна-педагагічны комплекс (СПК) горада Жодзіна Мінскай вобласці. СПК аб'ядноўвае дзіцячыя сады №№ 2 і 20, пачатковую школу № 3, сярэднюю агульнаадукацыйную школу № 2, станцыю дзіцячага і юнацкага турызму і краязнаўства (СДЮТК) і Цэнтр дзіцячай творчасці (ЦДТ). Такое аб'яднанне было прадыктавана аб'ектыўнымі ўмовамі, у якіх існуюць названыя арганізацыі. Справа ў тым, што ўсе яны знаходзяцца ў адным мікрараёне, які істотна аддалены ад асноўнай часткі горада і па сутнасці з'яўляецца "спальным". Тут няма ніякіх культурна-забаўляльных, спартыўна-аздараўленчых цэнтраў. Вялікую колькасць часу дзеці знаходзяцца адны. На тэрыторыі раёна ёсць дзіцячы сіроцкі прытулак, дзіцячы дом, інтэрнат, воінская часць, следчы ізалятар. Таму і ўзнікла ідэя стварэння адзінага сацыяльна-педагагічнага комплексу. Ён закліканы, эфектыўна выкарыстоўваючы ўсе магчымасці адукацыйна-выхаваўчай прасторы і ўлічваючы негатыўныя моманты сацыяльнай характарыстыкі мікрараёна, аб'яднаць педагагічныя, арганізацыйныя і адміністрацыйныя сілы для забеспячэння працэсу адукацыі і выхавання дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту. СПК быў утвораны па рашэнні Жодзінскага гарадскога выканкама ў 1998 годзе.

Структура СПК ўлічвае асаблівасці кожнай установы, што

**Сацыяльна - педагагічны комплекс эфектыўна выкарыстоўвае ўсе магчымасці адукацыйна-выхаваўчай прасторы.**

ўваходзіць у яго склад. Кіраўніцтва ажыццяўляецца саветам СПК на чале з дырэктарам сярэдняй школы № 9 Янінай Лявонцьеўнай Ільюцік. Агульныя мэты і задачы комплексу вынікаюць з мэт і задач кожнай установы. Можна вызначыць шэраг напрамкаў у сістэме яго выхаваўчай работы: усебаковае развіццё асобы дзіцяці і яе духоўна-маральнае станаўленне; укараненне новых выхаваўча-адукацыйных праграм і тэхналогій; дыферэнцыяваны падыход у навучанні; аздараўленне і прапаганда здаровага ладу жыцця; патрыятычнае выхаванне; прафілактыка дэвіянтных паводзін дзяцей; узаемадзенне з сям'ёй; экалагічная і краязнаўчая дзейнасць; супрацоўніцтва з дзяржаўнымі, праваахоўнымі і грамадскімі арганізацыямі ды прамысловымі прадпрыемствамі горада.

Асноўным прынцыпам дзейнасці СПК з'яўляецца пераемнасць і адзіны педагагічны падыход у выхаванні асобы дзіцяці. Рэгламентуецца практычная дзейнасць СПК "Рэгіянальнай праграмай сістэмы выхаваўчай работы СПК на 2000-2003 гады" і штогадовым планам пераемнасці, дзе фіксуюцца ўсе сумесныя мерапрыемствы, грамадска-карысныя справы, акцыі, педагагічныя нарады, святы і г.д.

Усебаковаму развіццю творчага і інтэлектуальнага патэнцыялу дзіцяці садзейнічаюць новыя адукацыйныя праграмы "Першы крок" (д/с № 2), "Крок за крокам" (ПШ № 3), арганізацыя класаў з паглыбленым вывучэннем матэматыкі, фізікі і англійскай мовы (сярэдняя школа № 9), профільных эканамічных класаў (ПШ № 3, сярэдняя школа № 9), профільных эстэтычных класаў (ПШ № 3). Два разы на год праходзяць педагагічныя нарады па пытаннях пераемнасці дзвюх школ, праводзяцца дні адкрытых дзвярэй, узаемнае наведванне ўрокаў і пазакласных заняткаў.

Выхаваўчая работа СПК грунтуецца на аснове шэрага мэтавых праграм і ў рамках тэматычных перыядаў. Прыярытэтны напрамак — фарміраванне здаровага ладу жыцця, які рэалізуецца праз праграму "Здароўе". У рэжыме аздараўлення дзяцей паспяхова працуюць дзіцячы сад № 20 і сярэдняя школа № 9, таму што маюць па сённяшніх мерках добрую матэрыяльную базу: басейны, фітабары, масажны кабінет, стаматалагічны і фізіятэрапеўтычны кабінеты, спартзалы, стадыён, барцоўскую і гімнастычную залы. Такім чынам, дзіцячы сад № 20 і сярэдняя школа № 9 сталі своеасаблівымі цэнтрамі аздараўлення дашкольнікаў і школьнікаў. На іх базе дзейнічаюць шматлікія спартыўныя секцыі, турыстычныя гурткі, ажыццяўляецца цеснае супрацоўніцтва з ДЮСШ. У рамках СПК штогод праводзяцца асеннія і вясеннія спартыўныя святы мікрараёнаў, дзе ў цікавай гульнявой форме прапагандуюцца розныя віды спорту і здаровы лад жыцця.

Важным накірункам у рабоце СПК з'яўляецца выхаванне маладога пакалення на духоўна-маральных каштоўнасцях беларускага народа, праз адраджэнне нацыянальных традыцый і звычаяў. Гэтаму садзейнічае мэтавая праграма "Вяртанне да каранёў сваіх". Створаны краязнаўчы музей у дзіцячым садзе № 20, пачаў працаваць музей беларускага ткацтва і вышыўкі ў сярэдняй школе № 9. Ужо восьмы

(Працяг на 2-й стар.)

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

год на базе гэтай школы дзейнічае фальклорная група "Купалінка" пад кіраўніцтвам вопытнага педагога Р.С.Шыпавай. Падлеткі займаюцца вывучэннем і тэатралізацыяй беларускіх традыцый, абрадаў і звычаяў. У сярэдняй школе № 9 ствараецца летапіс мікрараёна, збіраецца і сістэматызуецца матэрыял пра ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

У рамках праграмы "Вяртанне да каранёў сваіх" знойдзена новая цікавая форма работы па прапагандзе духоўна-маральных каштоўнасцей народа — свята мікрараёна. Святы "Калядная зорка" і "Прывітанне, масленіца" (2000 г.), "Святло Віфлеемскай зоркі" і "Шырокая Масленіца" (2001 г.), безумоўна, сталі творчай знаходкай у сістэме работы СПК. Яны ахапілі вялікую колькасць дзяцей і дарослых і па праве атрымалі шырокі грамадскі розгалас у горадзе. Яны натуральна спалучылі ў сабе шэраг пазнавальных, забаўляльных і спартыўных мерапрыемстваў. Дзеці і іх бацькі праз тэатральныя прадстаўленні на сцэне сярэдняй школы № 9 і на імправізаванай сцэне на свежым паветры знаёміліся са шматлікімі традыцыямі беларускага народа. Была разыграна такая унікальная форма тэатралізацыі, як батлейка. Вучні даведаліся, што такое "вертэп", пазнаёміліся з абрадамі калядавання і гукання вясны. Школьнікі сталі арганізатарамі святочнага кірмашу і стварылі сапраўдную канкурэнцыю гандлёвым радам, арганізаваным гарадскім гандлем. Разнастайныя конкурсы і гульні: "Лепшы выканаўца прыпевак", "Хакейны турнір", "Міні-футбол", "Вучань года", "Ану, хлопцы", "Экспромт + талент" і інш. — забаўлялі шматлікую дзятву. Усе, хто толькі меў ахвоту, маглі сваімі рукамі вырабіць што-небудзь карыснае ў творчых майстэрнях "Тваё святое імя", "Беларускі сувенір", "Я малюю цэлы свет", "Калядны вянок". Як звычайна бывае на святах, да гаспадароў завіталі госці: цыркавая трупа з Мінска, ансамбль беларускай песні гарадскога Дома культуры "Зарачанка", фальклорныя калектывы дарослых і дзяцей выхаваўчых установ, гарадскі клуб "Ветэран". У дзень свята мікрараёна адчынілі свае дзверы для дзяцей кінатэатр "Юнацтва", дзе была наладжана дыскатэка, гарадскі Дом культуры з забаўляльнай масленічнай праграмай, а таксама ваенна-патрыятычны цэнтр "Зубр".

**Прыярытэтны накірунак СПК — фарміраванне здаровага ладу жыцця, які рэалізуецца праз праграму "Здароўе".**

У рамках свята "Святло Віфлеемскай зоркі" ў сярэдняй школе № 9 у студзені 2001 года на дзіцячай пляцоўцы быў створаны рознаўзроставы атрад "Клопат", які шляхам калектыўнай творчасці арганізаваў дабрачынную акцыю "Святочны марафон". Школьнікі падрыхтавалі і правялі калядныя ранішнікі ў пачатковай школе № 3, у дзіцячым садзе № 20, у сярэдняй школе № 9 для дзяцей дзіцячых садоў, сіроцкага прытулку і дзіцячага дома. Удзельнікі атрада паказалі малым казку "Марозка", правялі парад казачных герояў, арганізавалі спартыўныя спаборніцтвы, а яшчэ кожны з малых пайшоў са свята з невялічкім падарункам.

Асаблівая ўвага на святах мікрараёна была ўдзелена ветэранам вайны і працы. Педагогі і атрад "Клопат" запрасілі іх на калядны "Блакітны агеньчык", а прадпрыемствы мікрараёна (КЗТШ, ЦЭЦ, БелНДІЖ, ваенная часць) дапамаглі матэрыяльна арганізаваць гэты вечар. Вопыт удаўся, і ў Дзень абаронцы Айчыны СПК ізноў гасцінна расчыніў свае дзверы перад заслужанымі працаўнікамі. Вечары для ветэранаў мікрараёна становяцца добрай традыцыяй у рабоце комплексу. А такія блізкія ўзаеміны з пакаленнем ветэранаў, непасрэдны клопат пра іх маюць вялізную выхаваўчую каштоўнасць для падлеткаў, якія былі ініцыятарамі і нароўні з педагогамі арганізатарамі гэтых вечароў.

Новыя падыходы

# Сацыяльна-педагагічны комплекс: усе радасці разам

У спартыўна-гульнявой праграме святаў, або народных гулянях, асноўнымі завадатарамі баталій на свежым паветры сталі супрацоўнікі станцыі турызму, настаўнікі фізкультуры і старшакласнікі сярэдняй школы № 9, кіраўнікі гурткоў Цэнтра дзіцячай творчасці. Кульмінацыяй Масленіцы было, безумоўна, частаванне блінамі, якія выпякаліся работнікамі сталовак школ комплексу. У час усіх святаў дзеці маглі пакатацца на конях.

Гэтыя маштабныя мерапрыемствы былі б немагчымымі, каб не дапамога многіх арганізацый: выканкама, прадпрыемстваў-шэфаў, воінскай часці, ЖКГ, гарадскога Дома культуры, рэдакцыі газеты "Жодзінскія навіны", савета ветэранаў, — гэта далёка не поўны пералік зацікаўленых структур горада, якія адгукнуліся і ўнеслі свой уклад у арганізацыю святаў.

У сучасных умовах адным з важнейшых напрамкаў у рабоце СПК з'яўляецца ўзаемадзенне з сем'ямі выхаванцаў. Комплекс мае сацыяльна-педагагічную службу, якая складаецца з чатырох сацыяльных педагогаў, трох педагогаў-арганізатараў і аднаго псіхолага. Асноўныя задачы гэтай службы — работа з дзецьмі па месцы жыхарства, прафілактыка дэвіянтных паводзін, папярэджанне правапарушэнняў. Для гэтага створаны мэтавыя праграмы "Сям'я і школа", "Падлетак", "Арыенцір", а таксама сумесны план працы сацыяльных педагогаў школ і дзіцячых садоў.

Вялікая ўвага ўдзяляецца ў СПК экалагічнаму выхаванню. Гэтую справу ўзялі на сябе дзіцячы сад № 2, які працуе па аўтарскай праграме "Зярнятка", і СДЮТК, якая з'яўляецца асноўным звяном экалагічнай работы ў СПК. Усе ўстановы комплексу маюць свае праграмы экалагічнага выхавання і з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі гарадскога агляду-конкурсу па экалагічнай рабоце. Сёння ствараецца адзіная скразная праграма комплексу па даным кірунку.

Сістэма выхаваўчай работы СПК рэгламентуецца таксама тэматычнымі перыядамі, агульнымі па тэрмінах і асноўных мэтах для ўсіх устаноў комплексу. Цікава і разнастайна праводзіцца "Тыдзень падзякі", прысвечаны Дню маці; традыцыйнымі сталі святкаванні Калядаў і Масленіцы; перыяд "Жыццё ў дзьмухаўцы" супадае з гарадскім двухмесячнікам экалагічнай работы; "Салют, Перамога!" і "Гэтых дзён не змоўкне слава" — перыяды, падчас якіх асаблівая ўвага ўдзяляецца патрыятычнаму і грамадзянскаму выхаванню. У кожным тэматычным перыядзе ёсць свая ключавая справа або заключнае свята, вакол якіх вядзецца падрыхтоўчая работа ўсіх структур выхаваўчых устаноў.

Больш за трыццаць гурткоў і аб'яднанняў па інтарэсах налічвае сацыяльна-педагагічны комплекс. Усе яны арганічна размеркаваны па розных установах зыходзячы з магчымасцей і ўмоў гэтых устаноў. Найбольш цікавыя заслугоўваюць асобнай размовы. Гэта — клуб інтэлектуальных гульняў "Санет", камунарскі атрад "Крынічка", фальклорная група "Купалінка", лялечныя тэатры дзіцячага сада № 20 і пачатковай школы № 3, нядзельная школа дзіцячага сада № 20, жывы куток і лясніцтва станцыі турызму, шматлікія спартыўныя секцыі і г.д.

**Больш за трыццаць гурткоў і аб'яднанняў па інтарэсах налічвае сацыяльна-педагагічны комплекс.**

На сённяшні дзень сацыяльна-педагагічны комплекс з'яўляецца дастаткова эфектыўнай структурай у арганізацыі выхаваўчай работы з дзецьмі і падлеткамі ў асобна ўзятым мікрараёне. Таму СПК ужо праводзіць метадычныя заняткі. На базе комплексу быў праведзены шэраг гарадскіх семінараў для кіраўнікоў і адміністрацыі школ і дзіцячых садоў горада: "Роля сацыяльна-педагагічнага комплексу ў фарміраванні здаровага ладу жыцця", "Работа педагагічных службаў СПК па месцы жыхарства", "Работа з дзецьмі з дэвіянтнымі паводзінамі", "Праграма "Арыенцір" і г.д.

У існаванні СПК ёсць шэраг праблем, вырашэнне якіх зрабіла б работу комплексу яшчэ больш выніковай. Асноўныя з іх — гэта недахоп кадраў (патрабуюцца псіхолагі, музычныя работнікі, кіраўнікі гурткоў) і фінансавання.

Але нягледзячы на пэўныя цяжкасці ў арганізацыі дзейнасці СПК педагагічны калектыў усіх устаноў сацыяльна-педагагічнага комплексу поўны творчых задум, пастаянна павышае свае прафесійныя якасці і добразычліва настроены на далейшае супрацоўніцтва ў рамках сваёй супольнай структуры.

**Яніна ІЛЬЮЦІК,**
**дырэктар сярэдняй школы № 9;**
**Марыя ДАЛЕЦКАЯ,**
**намеснік дырэктара сярэдняй школы № 9 Жодзіна.**

НА ЗДЫМКАХ: у час святаў дзеці могуць пакатацца на конях; народныя гулянні.







Мы таксама ўмеем чытаць.

**Фотаэцюд Святланы МАКАРАВАЙ.**

У дапамогу арганізатару летняга адпачынку

# Як нараджаюцца эрудыты

***Апошнім часам усё большую папулярнасць набываюць інтэлектуальныя гульні. Гэтаму шмат у чым садзейнічае вялікая колькасць забаўляльна-пазнавальных праграм, якія з'явіліся на тэлебачанні. Першая ластаўка — знакамітая гульня "Што? Дзе? Калі?" — аб'яднала з дапамогай захапляючай дзеі мільёны людзей і паслужыла штуршком для арганізацыі клубаў і гурткоў інтэлектуальных відаў творчасці. Мэты такіх клубаў — стварыць умовы для інтэлектуальнага развіцця, пашырэння кругагляду, павышэння агульнакультурнага ўзроўню дзяцей, развіцця ў іх эрудыцыі, логікі, фантазіі.***

Ажыццяўляць свае мэты нам дапамагае гульня. Выкарыстоўваючы яе забаўляльную функцыю, можна стварыць спрыяльную атмасферу для ператварэння вучэбных заняткаў у захапляючы творчы працэс пазнання новага. Такім чынам школьнікі, якія займаюцца ў клубе, праходзяць шлях ад простага захаплення гульнёй да разумення неабходнасці ўсебаковай адукацыі і самаадукацыі.

Розум, як і цела, страчвае гнуткасць і слабее, калі мы не прымушаем наш мозг працаваць. Але пастаянныя школьныя перагрузкі, вялікая колькасць інфармацыі, якая падаецца ў традыцыйнай форме, прыводзяць да перанапружання, нуды і, што горш за ўсё, да разумовага застою. У кожным дзіцяці закладзена магчымасць стаць Арыстоцелем, Пушкіным, Эйнштэйнам, але гэта багацце, як правіла, бяздарна марнуецца. Неабходна абудзіць у дзяцей жаданне думаць. А заадно і імкненне з цікаўнасцю глядзець на навакольны свет. Хочацца прывесці ўсім вядомую цытату: "... дзіця — гэта не сасуд, які трэба напоўніць, а паходня, якую трэба запаліць".

У гэтым і дапамагае гульня. У яе ходзе закамплексаваныя людзі "выпростваюцца", пачынаюць мысліць свабодна і раскована.

Інтэлектуальныя гульні камандных форм маюць камунікатыўную функцыю. Яны дапамагаюць аб'яднаць гульцоў у калектыў, дзе перш за ўсё цэніцца ўменне стасавацца, выказваць свае думкі дакладна і карэктна, весці дыскусіі і спрэчкі добразычліва, канструктыўна, паважаючы меркаванне іншага чалавека, нават калі яно вам здаецца памылковым. Гуляючы, дзеці выхоўваюць у сабе шмат карысных якасцей. Важнейшая з іх — здольнасць да хуткага лагічнага мыслення і ўменне не губляцца ў складанай сітуацыі.

У кожнага гульца свой характар. Адзін нецярплівы, другі — узор інтэлігентнасці і разважлівасці, трэці — замкнёны ў сабе, але з развітым вобразным мысленнем. Але ў гульні кожны заслугоўвае павагі незалежна ад узросту і сацыяльнага паходжання, і гэта забяспечвае агульны псіхалагічны камфорт.

Для таго каб стварыць такую каманду, неабходна працяглая творчая праца не толькі кіраўніка, але і кожнага дзіцяці паасобку.

Варта адзначыць, што асноўным метадам каманднай калектыўнай творчасці з'яўляецца метад "мазгавога штурму". Ён засноўваецца на тым, што выказаная ідэя базіруецца на другой, камбінуецца з ёй і нараджае наступную, у выніку чаго ўзнікае паток ідэй. Прымяняючы гэты метад у гульні, выконваюцца наступныя правілы:

1. Асобасная крытыка і вынясенне меркаванняў — станоўчых або негатыўных — не дапускаюцца. Крытыка павінна быць толькі канструктыўнай.

2. Генерыраванне як мага большай колькасці ідэй. Чым больш ідэй, тым лепш.

3. Свабоднае выказванне думак, не ацэньваючы іх, не саромячыся іх, якімі б яны ні здаваліся недарэчнымі.

Гульцы развіваюць у сабе ўменне думаць калектыўна, супольна. Асноўнае правіла калектыўнага мыслення простае — схапіць патрэбную думку ў словах партнёра па камандзе і развіць яе далей, падмацоўваючы інфармацыяй да правільнага адказу. Бывае, што ідэя прыходзіць нечакана, як унутраны выбух, пакідаючы ў памяці інтэлектуальную асалоду. Гульня прыносіць радасць.

Перавага ў клубах і гуртках інтэлектуальнай творчасці аддаецца, безумоўна, камандным гульням, хаця існуе значная колькасць пазнавальна-забаўляльных гульняў, разлічаных на індывідуальны ўдзел. Да такіх гульняў можна аднесці "Сваю гульню", якая набывае ўсё большую папулярнасць. Гэтая гульня ў большай ступені разлічана на эрудытаў, якія валодаюць не толькі выдатным лагічным мысленнем, але і памяццю.

Для цікаўнага розуму неабходна не толькі правільна адказваць на пытанні. Правільна складаць пытанні не менш важна. Вось чаму частка часу аддаецца ўменню прыгожа фармуляваць пытанне, прыдумваць новую гульню. Гэты працэс больш складаны і, магчыма, не ўсім удаецца ў аднолькавай ступені. Аднак чым больш пытанняў і гульняў складаюцца самастойна, тым лягчэй зразумець логіку чужога пытання, прадоўжыць цікавую думку, бо ўласная творчасць — гэта выдатная якасць, якая робіць нас наватарамі і мысліцелямі.

**У нашай краіне створана Беларуская ліга інтэлектуальных каманд.** Нарадзілася яна 14 студзеня 1995 года, свой пашпарт атрымала 6 чэрвеня 1996 года (у дзень нараджэння А.С.Пушкіна, што вельмі сімвалічна). З цягам часу яна разраслася — няма сёння такога абласнога цэнтра, куды б нельга было звярнуцца за дапамогай і парадай любому трэнеру-пачаткоўцу. Каманды і трэнеры, шоумены і пытанні — усё ў лігі сваё. Свае чэмпіянаты — для юнакоў і дарослых, свае міжнародныя турніры, нават свая перадача на беларускім тэлебачанні.

Беларуская ліга інтэлектуальных гульняў праводзіць восем рэспубліканскіх і міжнародных турніраў у сезон (практычна штомесяц), два летнікі, змену для пачынаючых гульцоў у піянерскім летніку "Зубраня", абласныя, гарадскія і раённыя турніры. У цэлым у турнірах прымаюць удзел больш за 120 студэнцкіх каманд і больш за 300 — дзіцячых.

Формы і метады, якія выкарыстоўваюцца кіраўнікамі гурткоў інтэлектуальных гульняў, як нельга лепш адпавядаюць вырашэнню праблемы павышэння зацікаўленасці вучняў у засваенні вучэбнага матэрыялу (што таксама важна), пашырэнню абсягу ведаў за межы сярэдняга школьнага ўзроўню. Гульня можа значна ўзмацніць уключанасць вучня ў вучэбны працэс, а таксама садзейнічаць больш паўнацэннаму і, калі можна так сказаць, міжвольнаму глыбокаму ўспрыняццю, запамінанню і ўсебаковаму аналізу інфармацыі. У выніку гульнявога навучання ў вучняў развіваецца здольнасць пераносу новых уяўленняў і навыкаў з мадэлюемай рэчаіснасці ў рэальную, адбываецца пашырэнне і паглыбленне атрыманай інфармацыі.

Акрамя агульнавядомых гульняў існуе шэраг іншых, якія застаюцца па-за ўвагай неспецыялістаў і шырока прымяняюцца ў трэніроўках тых самых знаўцаў, якія ўражваюць нас сваёй эрудыцыяй у тэлевізійных праграмах. Перш за ўсё гэта класічнае "Эрудытлато". Гэтая гульня універсальная і можа выкарыстоўвацца ў розных мэтах (яе варыянты — гульні "Міннае поле", "Веру — не веру", "Рэаліі" і іншыя).

**Вы яшчэ не пачалі працу з клубам інтэлектуальных гульняў? Паспяшайцеся пачаць! Вы не ўяўляеце сабе, якое цікавае і напоўненае жыццё вас чакае.**

Вось як напісаў пра інтэлектуальную гульню Леанід Клімовіч у кнізе "Гуляем у знаўцаў": "Вы працуеце з клубам інтэлектульных гульняў? Зараз жа кіньце! Вы не ўяўляеце, на што вы сябе асуджаеце: плаціць смяхотна мала, ні мінуты спакою ні днём, ні ноччу — увесь час займаюць трэніроўкі і пытанні, якіх вечна не хапае... Вы думаеце, што разумныя дзеці, з якімі вы працуеце, — гэта шчасце і мара? Кожны патрабуе асобнага падыходу і ўвагі патрабуе не менш, чым незараджаная пякельная машына. А праблемы ў камандах? А вечная праблема кахання ў такім спецыфічным дзіцячым калектыве? Уяўляеце, калі хто-небудзь з гульцоў закахаецца ў прыгожую, разумную капітаншу? Жах! А вечныя паездкі і бясконцае вытрасанне грошай, дарогі і гасцініцы, перажыванні з-за фестываляў і турніраў, пастаяннае: калі ж гэтыя няўдзячныя пачнуць выйграваць? Не, лепш бы вам і не пачынаць гэтым займацца. Настойліва вам рэкамендуем кінуць!

Вы яшчэ не пачалі працу з клубам інтэлектуальных гульняў? Паспяшайцеся пачаць! Вы не ўяўляеце сабе, якое цікавае і напоўненае жыццё вас чакае: ні хвіліны суму — сумаваць зусім няма калі, усё займаюць трэніроўкі і пытанні, якіх заўсёды не хапае. Да вас прыйдуць разумныя дзеці — мара і шчасце кожнага настаўніка: уважлівыя, удзячныя. Іх не трэба забаўляць і запалохваць: кожны з іх — асоба са сваім непаўторным абаяннем. А вечная творчасць — стварэнне каманд! А каханне капітана да прыгожай разумніцы са сваёй жа каманды. Ах, як гэта рамантычна! А вечныя паездкі, непаўторнасць дарогі, разнастайнасць гасцініц, бясконцае свята фестываляў і турніраў, пастаянны гонар за сваіх дзяцей, якія ўсё роўна лепшыя за ўсіх! Так! Абавязкова скажыце "так", калі вам прапануюць гэтым заняцца! Настойліва рэкамендуем!"

**Наталля ШЫШОВА,**
**метадыст Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.**

Падрабязнасці для "НГ"

Валянцін ШУХ:

# "У нас няма пераможаных. Усе ў нас — пераможцы"

***Завершаны чарговыя летнія Алімпійскія гульні Беларусі для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, што праходзілі на цэнтральным гарадскім стадыёне Маладзечна. Гэтае мерапрыемства было арганізавана Беларускім камітэтам "Спешыял алімпікс", што займаецца фізічнай рэабілітацыяй дзяцей-інвалідаў, пры падтрымцы міністэрстваў сацыяльнай абароны, адукацыі, аховы здароўя, спорту і турызму.***

Арганізатары падышлі да сваёй справы з усёй адказнасцю: зрабілі сапраўднае свята для сваіх падапечных. Урачыстае адкрыццё было з феерверкам і запальваннем алімпійскага агню, што вельмі парадавала дзяцей.

Акрамя спаборніцтваў, што доўжыліся чатыры дні, была і забаўляльная праграма. У ёй бралі ўдзел маладзечанскі Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, гарадскі цырк, воінскія часці. Кожны дзень праходзілі дыскатэкі з паказам мод. За лепшую дэманстрацыю танцаў, асобных відаў практыкаванняў па гімнастыцы ўручаліся прызы. Досыць разнастайнай была і культурная праграма: дзеці наведалі радзіму Янкі Купалы — Вязынку, Радашковічы, пабывалі ў мінскіх тэатрах.

Яшчэ ў межах мерапрыемства дзейнічала праграма "Здароўе": былі наладжаны збалансаванае вітамiннае харчаванне, бясплатнае медыцынскае абследаванне. Тут працавалі афтальмолагі, стаматолагі, педыятры. Жылі ўдзельнікі Алімпійскіх гульняў на спартыўнай базе "Вілія", што ў 20 кіламетрах ад Маладзечна.

Сваёй масавасцю спаборніцтвы пераўзышлі ўсе папярэднія. Яны праходзілі па сямі відах спорту. Было разыграна 500 камплектаў медалёў.

— У руху "Спешыял алімпікс" не бывае пераможаных, — зазначаў прэзідэнт Беларускага камітэта гэтага аб'яднання Валянцін Андрэевіч Шух. — У нас усе — пераможцы. Дэвіз гульняў — "Дай мне перамагчы, але калі ў мяне не атрымаецца, дык няхай я буду мужным у гэтай спробе". Узнагароджанне заўсёды пачынаецца з апошняга месца, але прадстаўлена ўсё так, нібыта яно першае. За 1, 2, 3 месцы ўручаюцца адпаведна "залатыя", "сярэбраныя", "бронзавыя" медалі, а астатнія спартсмены атрымліваюць ганаровыя керамічныя медалі "Спешыял алімпікс". Таксама для ўсіх падрыхтаваны добрыя падарункі.

**— У якіх відах спорту спаборнічаюць вашыя спартсмены?**

— Ва ўсіх, акрамя забароненых. Гэта 33 віды, якія пад сілу дзецям.

**— Тады ў чым спецыфіка гульняў?**

— Вядома, гэта будзе не тая, напрыклад, гімнастыка, якую дэманстравала Вольга Корбут. Тут выйдзе прыгожа апранутая дзяўчынка з бантамі і ў жабо. Яна зробіць практыкаванні больш простыя — па сваіх магчымасцях. Арыентацыя ў нас ідзе на тое, каб прыцягнуць дзяцей да працэсу развіцця, зацікавіць іх. Праз год заняткаў яны выконваюць і больш складаную праграму, потым — яшчэ больш складаную і г.д. Прыемна бачыць, як потым гэтыя дзеці пачынаюць авалодваць сваім целам.

**— Як спартсмены трапляюць на Алімпійскія гульні?**

— Спачатку праводзяцца школьныя спаборніцтвы, потым раённыя турніры, абласныя туры "Спешыял алімпікс", далей — рэспубліканская алімпіяда і апошні этап — сусветныя Алімпійскія гульні. На іх мы адбіраем не лепшых у рэспубліцы асобных спартсменаў, а лепшы клас, гурток ці клуб. У гэтым годзе мы былі на Алясцы, дзе праходзілі сусветныя гульні. Наша каманда атрымала больш за ўсіх медалёў.

Дарэчы, сусветныя Алімпійскія гульні праходзяць заўсёды ў ЗША. Шэфствуе над імі Кеннэдзі, брат былога прэзідэнта краіны. Істотны ўклад у гэтую справу ўносіць яго зяць — Арнольд Шварцэнегер. Усе зоркі спорту, шоу-бізнеса апякаюць там дзяцей-інвалідаў. Дарэчы, наш Віталь Шчэрба, які цяпер працуе ў ЗША, заўсёды прысутнічае на спаборніцтвах: ён павінен дапамагаць нашай арганізацыі, інакш у ЗША ён не будзе лічыцца ні трэнерам, ні спартсменам. Было б добра і нам мець такую традыцыю.

На сусветных Алімпійскіх гульнях можна бачыць і Пеле, і Марадону, і іншых зорак. Дзеці з імі фатаграфаваліся, паціскалі рукі. Гэта дазваляе хлопцам і дзяўчатам адчуваць, што ў іх няма перашкод, каб жыць паўнавартасна. Дарэчы, потым нашых дзяцей запрашаюць у госці на адпачынак за мяжу. Там яны жывуць у сем'ях. Некаторыя там стварылі свае сем'і, некаторых усынавілі.

**— Што новага ў дзейнасці Беларускага камітэта "Спешыял алімпікс" з'явілася ў апошні час?**

— Што да апошніх беларускіх Алімпійскіх гульняў, то мы ўпершыню запрасілі на іх дзяцей з вельмі цяжкімі паталогіямі. Для іх "Спешыял алімпікс" Беларусі распрацаваў спецыяльную праграму кшталту амерыканскіх "Плэй дэй", "Трэйнінг дэй", гульневы і трэніровачны дзень. Шчасцем было бачыць, што дзеці, якія не маглі раней паварушыць пальцам, не тое што галавой, паступова ўцягваліся ў праграму. А ўсё пачынаецца з першай усмешкі. У спаборніцтвах удзельнічалі тыя, хто ўжо крыху адаптаваўся, рэабілітаваўся фізічна. За кожнае практыкаванне яны атрымлівалі прыз.

У гэтым годзе праграма "Спешыял алімпікс" набыла статус дзяржаўнай, яна ўведзена ў вучэбныя планы. Ва ўсіх адпаведных школах цяпер павінны праходзіць свае турніры, дні здароўя. Акрамя таго, мы ўжо праводзім "Плэй дэй" і "Трэйнінг дэй" для дашкольнікаў і тых, хто прыкаваны да ложка. Няма такіх дзяцей, якія не падлягалі б навучанню. Калі дзіця не можа наведваць школу, настаўнік, псіхолаг, дэфектолаг павінны прыходзіць да яго і працаваць па індывідуальнай праграме. Тут трэба бачыць зону бліжэйшага развіцця дзіцяці: што яно можа сёння і што зможа праз год-два.

**— Вядома, каб ажыццяўляць такі праект, трэба немалыя грошы. Як у вас з фінансавым забеспячэннем?**

— Цяжка. Непасрэдна мы не атрымоўваем аніякіх датацый. Не можам нават купіць медалі. Але дапамагаюць урад, банкі, рэлігійныя арганізацыі — пакрыху, хто як можа. Вельмі хочацца, каб дзеці атрымлівалі яшчэ і падарункі.

Напрыклад, каб паехаць на сусветныя гульні, патрэбна было каля 2000 долараў ЗША на кожнае дзіця. Дапамаглі дзяржструктуры: урад, гарвыканкам, аблвыканкам. Міністэрствы сацыяльнай абароны, спорту і турызму забяспечылі нашу зборную цудоўнай формай, якая засталася ў спартсменаў на памяць. Форма наша была лепшай за амерыканскую, канадскую і інш. Да нас нават падыходзілі з запытаннем: "Вы што, сталі жыць лепш?", на што мы адказвалі: "А мы ніколі кепска і не жылі"...

Добра, калі мы свае жыццёвыя цяжкасці пераносім з усмешкай. Але іх ад гэтага, на жаль, менш не становіцца. Патрэбны яшчэ і справы, гатоўнасць прыйсці на дапамогу таму, хто мае ў гэтым патрэбу. І зусім неістотна, якая форма будзе гэтай дапамогі — фінансавая, арганізацыйная ці маральна-псіхалагічная. Галоўнае, каб яна была своечасовай.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

## Па старонках Інтэрнэта

# Эканамічныя адносіны ў сферы адукацыі не адпавядаюць часу

### Пра гэта гаворыць міністр эканамічнага развіцця і гандлю Расіі Герман Грэф

***Адразу ж пасля атрымання рэспублікамі СССР незалежнасці у кожнай з гэтых дзяржаў пачала фарміравацца свая сістэма нацыянальнай адукацыі. Зразумела, што база ва ўсіх была агульная – савецкая адукацыйная сістэма, якая, дарэчы, была далёка не апошняй у свеце.***

***Што робіцца сёння ў гэтай сферы ў нашага бліжэйшага суседа – Расійскай Федэрацыі? Пытанне дастаткова актуальнае, бо стварэнне саюзнай дзяржавы прадугледжвае і уніфікацыю асноўных падыходаў, прынцыпаў функцыянавання адукацыйных сістэм.***

***Прапануем чытачам "Настаўніцкай газеты" меркаванне міністра эканамічнага развіцця і гандлю Расіі Германа Грэфа, якое ён выказаў у інтэрв'ю "Учительской газете". Улічваючы тую ролю, якую адыгрывае сёння гэтае ведамства і персанальна яго кіраўнік у распрацоўцы і рэалізацыі канцэпцыі сацыяльна-эканамічнага развіцця Расійскай Федэрацыі, выказванні міністра даюць пэўнае ўяўленне пра асноўныя накірункі дзейнасці ўрада Расіі ў галіне адукацыі.***

Герман Грэф гаворыць, што асноўная адметная асаблівасць краін з развітай эканомікай – такая структура валавага ўнутранага прадукту, у якой большую частку складаюць паслугі і прадукцыя высокатэхналагічных сектараў. Інвестыцыі ў навуку і адукацыю ў гэтых краінах надзвычай вялікія, бо без іх не можа быць нармальнага паступальнага развіцця. Савецкая адукацыя была нядрэннай, але яна перастала адпавядаць запатрабаванням грамадства і рынку, сусветным стандартам. Адным з ключавых фактараў эканамічнага развіцця з'яўляецца мабільнасць рабочай сілы. А ў Расіі гэты паказчык — крайне нізкі. Не на ўзроўні знаходзяцца і хуткасць навучання, адпаведнасць структуры адукацыі рынкаваму попыту. Сярод прычын такой сітуацыі Грэф называе падзенне прэстыжу настаўніцкай працы, нізкі ўзровень заработнай платы ў галіне. Але галоўнае, на яго думку, тое, што эканамічныя адносіны ў сферы адукацыі — несучасныя і неэфектыўныя.

Герман Грэф упэўнены, што дзяржава павінна адмовіцца ад падтрымкі, рэгулявання і кантролю многіх сфер. У той жа час ён цвёрда перакананы, што дзяржаўная прысутнасць у адукацыі павінна толькі нарошчвацца. Чым большымі будуць інвестыцыі ў адукацыю, тым вышэйшымі стануць паказчыкі цывілізаванасці эканомікі. Сёння ў Расіі на адукацыю выдаткоўваецца 3,2% ВУП, у той час як у Кітаі – 4%, еўрапейскіх краінах і ЗША – не меней 5,5-6%. Паралельна з павелічэннем фінансавання павінна змяняцца і яго структура.

Герман Грэф сцвярджае, што вялікія фінансавыя сродкі трацяцца на падрыхтоўку кадраў, не запатрабаваных рынкам. Напрыклад, да 70% інжынераў, якія заканчваюць ВНУ, не збіраюцца працаваць па спецыяльнасці. Каб змяніць становішча, міністр прапаноўвае фінансаваць не самі ўстановы, што выбіраюць чыноўнікі (як правіла, пад вялікім уплывам суб'ектыўнага фактару), а тыя спецыяльнасці, якія выбіраюць самі абітурыенты і на якія ёсць сапраўдны рынкавы попыт.

Яшчэ адзін важны этап — аб'ектывізацыя працэсу паступлення ў ВНУ. Герман Грэф лічыць, што па памерах сродкаў, якія знаходзяцца ў ценевым абароце, адукацыйная галіна знаходзіцца на адным з першых месцаў. Гэтыя вялікія грошы, зразумела, не ідуць на развіццё сістэмы, а трапляюць у кішэні не чыстых на руку чыноўнікаў ад адукацыі. Па меркаванні міністра, неабходна паўсюднае ўвядзенне камп'ютэрнага тэсціравання на уступных экзаменах, бо камп'ютэр нельга падкупіць. Пры гэтым чыноўнікі і кіраўнікі ВНУ будуць займацца не забеспячэннем паступлення дзяцей начальнікаў і бізнесменаў, а развіццём адукацыі. Пачнецца, нарэшце, і рэальная канкурэнцыя за абітурыента сярод ВНУ.

Разважаючы аб праблемах сярэдняй спецыяльнай адукацыі, Герман Грэф называе асноўнай балявой кропкай саму яе структуру. Ён гаворыць, што асабліва нізкая падрыхтоўка сёння ў выпускнікоў прафесійна-тэхнічных вучылішч. Калі трэба было рыхтаваць слесараўсантэхнікаў, трактарыстаў шырокага профілю і вадзіцеляў 3 класа, ПТВ з гэтым спраўляліся. Але сёння патрабаванні да кваліфікаванай рабочай сілы прынцыпова іншыя — неабходным з'яўляецца веданне тэхнічных навук, свабоднае валоданне камп'ютэрам. Грэф лічыць, што паступова ПТВ і тэхнікумы будуць збліжацца і зліварца. Фінансаванне гэтых навучальных устаноў павінна ажыццяўляцца на рэгіянальным узроўні, таму што яны рыхтуюць кадры менавіта для рэгіянальных рынкаў працы.

Неабходнай, на думку Германа Грэфа, з'яўляецца і рэфармаванне сельскай школы, якая ў цяперашні час з'яўляецца абсалютна неканкурэнтаздольнай, хоць у разліку на 1 чалавека затраты на падрыхтоўку вясковага вучня нават вышэйшыя, чым яго гарадскога равесніка. Павінна змяніцца і роля настаўніка сельскай школы. Сёння часта бывае так, што адна настаўніца вядзе ўрокі і ў 5, і ў 6, і ў 7 класах. Яна, па сутнасці, толькі ўзнаўляе веды, атрыманыя ў педінстытуце 25-30 гадоў таму. У вясковых настаўнікаў, як правіла, адсутнічае магчымасць выпісваць педагагічную перыёдыку, знаёміцца з навінкамі спецыяльнай літаратуры. Яны не могуць не тое што ўдзельнічаць у семінарах і канферэнцыях па абмене перадавым вопытам, а нават і павысіць кваліфікацыю на адпаведных курсах. Да гэтага трэба дадаць зношаную, маральна і фізічна састарэлую матэрыяльна-тэхнічную базу большасці сельскіх школ. Зразумела, што ў такіх умовах нават самыя таленавітыя і добрасумленныя настаўнікі не здольны даць сваім вучням тыя веды, якія атрымліваюць хлопчыкі і дзяўчынкі з гарадскіх школ.

Выйсце міністр бачыць у рэструктурызацыі, узбуйненні сельскіх школ. Вызваленыя сродкі будуць накіраваны на аснашчэнне школ камп'ютэрнай тэхнікай, сучаснымі нагляднымі дапаможнікамі, павышэнне заробку настаўнікаў.

Напрыканцы размовы Герман Грэф падкрэсліў, што асаблівасцямі цяперашняй рэформы адукацыі ў Расіі павінны быць комплекснасць, прадуманасць кожнага кроку. Спяшацца недапушчальна. Рэформу павінны зразумець і падтрымаць прадстаўнікі настаўніцкага корпуса, грамадскасць у цэлым. Толькі тады яна будзе эфектыўнай і дасць свой плён.

**Падрыхтаваў**
**Уладзімір МАТУСЕВІЧ.**

## "Свет без межаў" аб'яднаў юных мастакоў

У межах міжнароднага культурнага праекта "Свет без межаў" Беларускі Дом дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі арганізаваў сустрэчу юных мастакоў бабруйскай узорной студыі выяўленчага мастацтва "Радуга" са сваімі даўнімі сябрамі — юнымі мастакамі з расійскага горада Корсун Ульянаўскай вобласці.

На сустрэчу з дзецьмі ў Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі завіталі дачка нашага вядомага пісьменніка Алеся Адамовіча — Наталля, народны мастак Георгій Паплаўскі (ураджэнец Бабруйска), старшыня Беларускага фонду міру Марат Ягораў.

Усе з задавальненнем агледзелі выставу юных беларускіх і расійскіх мастакоў, удзельнікаў міжнароднага праекта "Свет без межаў". Напрыканцы імпрэзы адбыўся невялічкі канцэрт, у якім прынялі удзел не толькі дзеці, але і дарослыя.

**Любоў БІДЗЮК.**



Больш за месяц народны майстар, кіраўнік крычаўскай дзіцячай студыі "Свістулькі" Вячаслаў Якавенка быў у Галандыі. Ён выступаў у розных гарадах. Майстар вазіў туды крычаўскую гліну і інструмент, ляпіў і вучыў галандскіх дзяцей рабіць свістулькі.

НА ЗДЫМКУ: урокі дзецям дае Вячаслаў Якавенка ў г.Равенстайне.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

## Урад Расіі вызначыў правілы аказання платных адукацыйных паслуг

Днямі кіраўнік урада Расійскай Федэрацыі Міхаіл Касьянаў падпісаў пастанову "Аб зацвярджэнні правілаў аказання платных паслуг у сферы дашкольнай і агульнай адукацыі". Пра гэта паведаміла агенцтва Інтэрфакс са спасылкай на дэпартамент урадавай інфармацыі.

Правілы распаўсюджваюцца як на федэральныя і муніцыпальныя дзяржаўныя адукацыйныя ўстановы, якія аказваюць дадатковыя платныя паслугі, так і на недзяржаўныя, а таксама на грамадзян, якія практыкуюць навучанне індывідуальна. Пералік платных адукацыйных паслуг павінен цяпер утрымлівацца ў статутах арганізацый.

Сярод паслуг, за якія ўстановы і грамадзяне могуць патрабаваць плату, навучанне па дадатковых адукацыйных праграмах, выкладанне спецыяльных курсаў і цыклаў дысцыплін, рэпетытарства, заняткі па паглыбленым вывучэнні прадметаў.

Разам з тым, пастановай азначана кола паслуг, якія не могуць быць аднесены да катэгорыі платных. Напрыклад, дзяржаўныя і муніцыпальныя адукацыйныя ўстановы не могуць аказваць платныя паслугі ў рамках асноўнай адукацыйнай дзейнасці, фінансуемай за кошт бюджэтных сродкаў.

У пастанове расійскага ўрада падкрэсліваецца, што адмова спажыўца ад прапануемых платных паслуг не можа быць падставай для змяншэння аб'ему прадастаўляемай бясплатна асноўнай адукацыі.

## ФРГ клапоціцца пра імідж сваіх ВНУ

Урад ФРГ мае намер выдзеліць 20 мільёнаў марак на папулярызацыю нямецкай адукацыі за мяжой. Згодна з папярэднім планам, выкладчыкі тэхнічнай ВНУ Ахена будуць навучаць інжынераў у Тайландзе, а Мюнхенскі тэхнічны універсітэт збіраецца адкрыць уласны адукацыйны цэнтр у Сінгапуры. Акрамя таго, універсітэт Цюбінгена будзе займацца арганізацыяй летніх курсаў па нямецкім праве на Украіне.

Па словах міністра адукацыі ФРГ Эдэльгард Бульман, мэта дзяржаўнай праграмы — узняць прэстыж нямецкіх ВНУ. Яна не выключае, што гэта дапаможа таксама знайсці замежных спонсараў і студэнтаў, якія здолелі б самі аплачваць уласную адукацыю. Э.Бульман выказала спадзяванне, што ў бліжэйшы час нямецкія ВНУ будуць паспяхова канкурыраваць з амерыканскімі, брытанскімі і галандскімі універсітэтамі і каледжамі.

## ФІФА ўхваліла ўкраінскую ідэю футбольнага ўрока ў агульнаадукацыйных школах

Прэзідэнт ФІФА Зэп Блатэр запрасіў прэзідэнта Федэрацыі футбола Украіны Рыгора Суркіса выступіць на кангрэсе гэтай міжнароднай арганізацыі ў Аргенціне і азнаёміць яго дэлегатаў з праектам укаранення ўрокаў футбола ва украінскія агульнаадукацыйныя школы. Пасля заканчэння кангрэса Рыгор Міхайлавіч Суркіс падзяліўся сваімі меркаваннямі з прадстаўнікамі украінскіх СМІ:

— Мой даклад прыцягнуў увагу 750 дэлегатаў і вялікую колькасць журналістаў. Цікавасць да яго была яшчэ і таму, што праграму мяркуецца рэалізаваць у рамках краіны з 50-мільённым насельніцтвам. Усяго ёю будзе ахоплена 22 тысячы школ, дзе вучацца 6 мільёнаў дзяцей. Зараз у 4 рэгіянальных цэнтрах (Кіеў, Львоў, Харкаў, Днепрапятроўск) праводзіцца перападрыхтоўка больш як 30 тысяч настаўнікаў фізкультуры. З укараненнем праграмы на Украіне аформіцца надзейная структура ўсёй футбольнай гаспадаркі: урокі футбола ў школах, спаборніцтвы "Скураны мяч", дзіцяча-юнацкая ліга, прафесійны футбол. Спадзяюся, што праз год мы долеем падзяліцца першым вопытам работы.

Зараз Федэрацыя футбола Украіны самастойна фінансуе праект футбольных заняткаў у школах. Сродкі выдаткоўваюцца на перападрыхтоўку настаўнікаў, выданне метадычнай літаратуры, выпуск паліграфічнай прадукцыі. Паверце, гэта вялікія грошы, але мы свядома ідзём на такія выдаткі. Спадзяёмся, што наша ідэя будзе прыцягальнай як для школьнікаў, так і для іх бацькоў, і, зразумела, педагогаў. Цвёрда ўпэўнены, што падтрымае нас і дзяржава, бо справа гэтая ў інтарэсах усёй Украіны. Падчас работы ў парламенце над праектам бюджэту 2002 года я буду імкнуцца выдзеліць фінансаванне дзіцяча-юнацкага футбола асобным радком.

## Абмяркоўваецца праект змяненняў рускага правапісу

Расійская навуковая грамадскасць, вучоныя-філолагі зараз прыступілі да абмеркавання праекта змяненняў арфаграфіі і пунктуацыі рускай мовы. З мэтай пашырэння ўдзельнікаў абмеркавання матэрыялы былі выкладзены на сайце "Русский язык" (www.gramota.ru) у сетцы Інтэрнет. На сайце змешчаны поўны "Свод правил русского правописания" 1956 года, а таксама праект змяненняў, падрыхтаваны Інстытутам рускай мовы імя Вінаградава РАН і вынесены на абмеркаванне Арфаграфічнай камісіяй пры РАН.

У праекце — 23 пункты, якія закранаюць, як падкрэсліваюць распрацоўшчыкі, не асноўныя прынцыпы рускай мовы, а толькі асобныя выпадкі правапісу.

У цэлым змяненні прадугледжваюць большую уніфікацыю, аднолькавасць правапісу; паводле іх ліквідуецца шэраг выключэнняў, значную ролю набывае фанетычны прынцып правапісу.

Так, напрыклад, прапануецца пісаць паслядоўна без літары **й** агульныя назоўнікі з кампанентам **-ер (конвеер, феерверк, плеер)**, словы **брошура і парашут**, дзе **ш** заўседы вымаўляецца цвёрда, прапануецца пісаць праз **у** замест **ю**. Распрацоўшчыкі прапануюць ліквідаваць усім вядомае выключэнне і пісаць слова **ветренный** з дзвюма **н** (замест адной), у месным склоне назоўнікаў на **ий (ия)** пісаць канчатак **-е** замест **-и (о Вие, Пие, Лие, Ие)**.

Спрашчаецца і правіла напісання **-нн** і **-н** у прыслоўях і прыметніках. Калі яны ўтвораны ад дзеясловаў закончанага трывання — прапануецца пісаць **-нн**, незакончанага **-н** (незалежна ад кантэксту).

Прапануецца пісаць разам утварэнні з прыстаўкай **-экс (эксминистр, экссоветский, экстерриториальный)**, назвы адзінак вымярэння **(койкоместо, самолетовылет)**, палітычных партый і накірункаў, іх прыхільнікаў **(анархосиндикализм, коммунопатриот)**, новыя складаныя словы **(медиахолдинг, минитрактор, ретромузыка)**. Таксама разам прапануецца пісаць усе складаныя назоўнікі, першая частка якіх супадае з формай загаднага ладу дзеяслова **(перекатиполе, гуляйгород, неразлейвода)**.

Уводзіцца і новае правіла напісання складаных прыметнікаў. Калі раней праз дэфіс пісаліся словы з раўнапраўнымі адносінамі дзвюх частак, а разам — з падпарадкаванымі, то цяпер прапануецца увесці ў якасці крыт-эрыя наяўнасць у першай частцы суфікса. Тыя прыметнікі, што маюць суфікс у першай частцы, пішуцца праз дэфіс **(южно-американский, горно-алтайский)**, а разам — тыя, дзе ён адсутнічае **(асбестобетонный, водовоздушный)**.

Распрацоўшчыкі праекта прапануюць пашырыць сферу ўжытку раздзяляльнага цвёрдага знака перад літарамі **е, ё, ю, я.** Яны прапануюць пісаць **ъ** ва ўсіх складаных словах без злучальных галосных **(артъярмарка, гиперъядро)**, а таксама ў складанаскарочаных словах **(военъюрист, госъязык, Минъюст)**.

У праекце ўлічаны тыя змены, што адбыліся ў апошнія гады ў светапоглядзе большай часткі грамадства. Так, прапануецца ўключыць асобны раздзел **"Названия, связанные с религией".** У яго аснове — практыка напісання з вялікай літары слоў, якія абазначаюць рэлігійныя паняцці (такая практыка, дарэчы, існавала ў дарэвалюцыйныя часы і ў асноўным аднаўлена ў сучасным друку). Так, з вялікай літары, напрыклад, пішуцца словы **Господь, Богородица, Пасха, Рождество Христово.**

У рускай мове (таксама, як і ў беларускай) існуюць розныя падыходы да напісання назваў дзяржаўных і грамадскіх устаноў, палітычных партый і аб'яднанняў, родаў войск і г. д. Распрацоўшчыкі праекта лічаць, што неабходна пісаць з вялікай літары толькі першае слова — **Государственная дума, Военно-морской флот, Союз театральных деятелей.** З малой літары прапануецца пісаць назвы любых службовых пасад. Выкарыстанне вялікай літары дазваляецца ў назвах вышэйшых дзяржаўных пасад і тытулаў толькі ў афіцыйных дакументах.

Азначаны ў праекце парадак і тэрміны ўкаранення новых правілаў. Пры гэтым распрацоўшчыкі зыходзілі з таго, што для асваення любых змен у правапісе патрабуецца час, бо носьбіт мовы павінен да іх адаптавацца. Арфаграфічная камісія пасля зацвярджэння змяненняў прапануе ўвесці своеасаблівы пераходны перыяд (3 гады), на працягу якога будзе дзейнічаць "мараторый" на прызнанне памылкамі старых, не адпавядаючых новым правілам, напісанняў. **Такія памылкі не павінны ўлічвацца пры афіцыйнай ацэнцы пісьменнасці чалавека — напрыклад, пры выпускных экзаменах у школе ці ўступных у ВНУ.** Такі падыход, лічаць распрацоўшчыкі праекта, будзе самым рацыянальным і дазволіць пазбегнуць непажаданых цяжкасцей пры ўвядзенні змен у рускі правапіс.

## Хто вучыцца ў Новай Зеландыі

Мала хто ведае, што апошнім часам маладыя людзі з розных краін свету імкнуцца атрымаць вышэйшую адукацыю не толькі ў Вялікабрытаніі ці ЗША, але і ў Новай Зеландыі, навучальныя ўстановы якой карыстаюцца ўсё большай папулярнасцю сярод студэнтаў.

Сярэдняя працягласць навучання ў Новай Зеландыі ў гэтым годзе складае 25,5 тыдня (у мінулым — 21,8 тыдня).

Згодна з данымі апошніх апытанняў, сярэдні ўзрост студэнтаў-замежнікаў складае 24,7 года. Большасць (71%) студэнтаў прыбылі з азіяцкага рэгіёна (30%—японцы, 25%—карэйцы, 16% —кітайцы). Ёсць таксама бразільцы — 8%, чэхі і славакі —7%. Студэнты краін Заходняй Еўропы складаюць 6% ад агульнай колькасці тых, хто прыехаў на вучобу ў Новую Зеландыю з іншых краін.

Для 27% апытаных адукацыя спатрэбілася для далейшай працы, 21% студэнтаў думае працягваць вучобу ў Новай Зеландыі, яшчэ 10% — у сваёй краіне. 26% апытаных сказалі, што адукацыю атрымліваюць проста дзеля задавальнення.

Заняткі праводзяцца па групах. У адной групе, як правіла, 6-9 чалавек. 67% студэнтаў пражываюць у сем'ях.

90% усіх апытаных маглі б рэкамендаваць навучанне ў Новай Зеландыі сваім сябрам і знаёмым. Адказваючы на пытанне, што больш за ўсё цікавіць і прываблівае іх у гэтай краіне, замежныя студэнты на першае месца паставілі людзей, пасля — мову, прыроду, культуру, спорт, кухню, пакупкі і начное жыццё.

**Падрыхтаваў**
**Уладзімір МАТУСЕВІЧ.**

Інструктыўна-метадычнае пісьмо Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на 2001–2002 навучальны год

# Аб вывучэнні беларускай мовы і літаратуры

На вывучэнне беларускай мовы і літаратуры ў 2001/2002 навучальным годзе прапануецца наступная колькасць гадзін:

| Навучальныя прадметы | 4 кл. 12-гадовай школы | Колькасць гадзін у тыдзень па класах (11-гадовая школа) 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларуская мова (школы з беларускай мовай навучання) | 4 | 5/4 | 5/4 | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 |
| Беларуская мова (школы з рускай мовай навучання) | 3 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 |
| Беларуская літаратура (школы з беларускай мовай навучання) | 2 | 2 | 2 | 2/3 | 3/2 | 3/2 | 3 | 3 |
| Беларуская літаратура (школы з рускай мовай навучання) | 2/1 | 1/2 | 2 | 1/2 | 2 | 2 | 3 | 3 |

Навучанне беларускай мове будзе ажыццяўляцца ў адпаведнасці з наступнымі праграмамі: 5-9 класы беларускамоўных школ - па праграмах для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання 2000 года выдання; у 5-9 класах рускамоўных школ - па праграмах для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з рускай мовай навучання 2000 года выдання.

У 10-11 класах абодвух тыпаў школ таксама выкарыстоўваюцца праграмы 2000 года выдання. У профільных класах і класах з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы навучанне мове ажыццяўляецца па адпаведных праграмах, змешчаных у зборніках праграм. Паколькі ў зборніку надрукаваны праграмы для класаў з гуманітарным профілем пры выкладанні мовы ў класах з іншымі профілямі настаўнік мае права ўзяць названую праграму за аснову, пераразмеркаваўшы ў адпаведнасці з вучэбным планам колькасць гадзін на вывучэнне паасобных тэм праграмы.

Пры навучанні беларускай мове неабходна карыстацца такімі падручнікамі. Школа з беларускай мовай навучання:

5 клас - Красней В.П. і інш. Беларуская мова. Народная асвета, 1995, 1997 гг.

6 клас - Красней В.П. і інш. Беларуская мова. Народная асвета, 1998, 2001 гг.

7 клас - Валочка Г.М. і інш. Беларуская мова. Народная асвета, 1998, 2001 гг.

8 клас - Антанюк Л.А. і інш. Беларуская мова. Бервіта, НМЦ, 1997, 1999 гг.

9 клас - Прошчанка В.У. Беларуская мова. Народная асвета, 1996, 1999 гг.

10 клас - Круталевіч М.М. і інш. Беларуская мова. Народная асвета, 1999 г.

11 клас - Круталевіч М.М. і інш. Беларуская мова. Народная асвета. 2000 г.

Школа з рускай мовай навучання:

5 клас - Несцяровіч В.І. і інш. Беларуская мова. Народная асвета. 1998, 1999 гг.

6 клас - Малажай Г.М. і інш. Беларуская мова. Народная асвета. 1998, 2001 гг.

7 клас - Малажай Г.М. і інш. Беларуская мова. НМЦэнтр, 1997. 1999, 2001 гг.

8 клас - Тамашэвіч Т.І. Беларуская мова. НМЦэнтр, 1999, 2001 гг.

9 клас - Гардзей Н.М. і інш. Беларуская мова. НМЦэнтр, 2000 г.

10 - 11 класы - Несцяровіч В.І. і інш. Беларуская мова. Народная асвета, 1999 г.

Навучанне беларускай літаратуры будзе весціся ў адпаведнасці з адной з дзеючых праграм па беларускай літаратуры: праграме Нацыянальнага інстытута адукацыі або праграме Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта. Права выбару адной з праграм належыць настаўніку беларускай мовы і літаратуры. Раённымі аддзеламі адукацыі павінны быць прыняты меры па ажыццяўленні гэтага права. У адной школе, у адной паралелі класаў могуць выкарыстоўвацца розныя праграмы. Аднак непажаданым з'яўляецца пераход з адной праграмы навучання на другую (асабліва ў старшых класах).

У праграму па беларускай літаратуры для абітурыентаў уключаны найперш тыя творы, якія вывучаюцца ў старшых класах па абедзвюх праграмах. Разам з тым гэтая праграма захоўвае варыятыўнасць, г.зн. абітурыент мае права раскрываць пытанне па тым матэрыяле, які ён вывучаў у школе.

Падручнікі і навучальныя дапаможнікі заказваюцца школай адпаведна колькасці вучняў, якія навучаюцца па той ці іншай праграме. Пры наяўнасці ў школе падручнікаў і навучальных дапаможнікаў да другой праграмы (па якой школа не працуе) іх можна скарыстаць для дадатковага чытання вучням.

У праграмах па беларускай літаратуры, як і ў праграмах па беларускай мове, даецца прыкладнае размеркаванне вучэбнага матэрыялу. Настаўнік мае права ўносіць у яго карэктывы.

Для навучання беларускай літаратуры на павышаным ці паглыбленым узроўнях (профільныя класы і класы з паглыбленым вывучэннем беларускай літаратуры) выкарыстоўваюцца праграмы 2000 года выдання (змешчаны ў зборніку праграм Нацыянальнага інстытута адукацыі). Акрамя гэтага, у такіх класах можна выкарыстоўваць праграмы па беларускай літаратуры для 8 - 11 класаў сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з паглыбленым і профільным вывучэннем беларускай літаратуры, распрацаваныя выкладчыкамі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта пад навуковым кіраўніцтвам доктара філалагічных навук, прафесара Рагойшы В.П.

Навучанне беларускай літаратуры будзе ажыццяўляцца па наступных падручніках.

По праграме Нацыянальнага інстытута адукацыі:

5 клас - Цітова Л.К. Родная літаратура. Народная асвета, 1996, 1999 г.г.

6 клас – Лазарук М.А. Родная літаратура. Народная асвета, 1997, 2001 г.г..

7 клас - Лазарук М.А. Родная літаратура. Універсітэцкае, 1997, 2001 г.г.

8 клас - Кушнярэвіч В.В. Родная літаратура. Аракул, 2000 г.

9 клас - Бугаёў Д.Я. і інш. Беларуская літаратура. Народная асвета, 2001 г.

10 клас - Лазарук М.А. і інш. Беларуская літаратура. Мастацкая літаратура, 2001 г.

11 клас - Мішчанчук М.І. і інш. Беларуская літаратура. Універсітэцкае, 1999, 2001 г.г.

Па праграме Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта:

5 клас - Ішчанка Г.М. і інш. Родная літаратура. Крыніца, 1995 г.

6 клас - Асташонак Л.В. і інш. Родная літаратура. Асар, 1996, 1999 г.г.

7 клас - Ляшук В.Я. і інш. Беларуская літаратура. Асар, 2001 г.

8 клас - Ляшук В.Я. і інш. Беларуская літаратура. Аракул, 2001 г.

9 клас - Гарадко Л.С. Беларуская літаратура. Асар, 2000 г.

10 клас - Ляшук В.Я. і інш. Беларуская літаратура, 2001 г.

11 клас - Ляшук В.Я. і інш. Беларуская літаратура. Мастацкая літаратура, 1999, 2001 гг.

Падручнікі для 4 класа школы з 12-гадовым тэрмінам навучання:

Красней В.П. і інш. Беларуская мова для школ з беларускай мовай навучання. Народная асвета, 2001 г.

Васюковіч Л.С. і інш. Беларуская мова для школ з рускай мовай навучання. НМЦэнтр, 2001 г.

Цітова Л.К. Беларуская літаратура для школ з беларускай і рускай мовамі навучання. Народная асвета, 2001 г.

Ішчанка Г.М. і інш. Беларуская літаратура для школ з беларускімі і рускімі мовамі навучання. Асар, 2001 г.

З мэтай аказання дапамогі настаўнікам у арганізацыі і правядзенні ўрокаў беларускай мовы і літаратуры, дадатковых заняткаў, пазакласнай работы ў гэтым годзе ў школы паступяць наступныя метадычныя дапаможнікі, а таксама слоўнікі:

Красней В.П., Малажай Г.М. Алімпіяды па беларускай мове.
Навуменка І.Я. і інш. Вывучэнне творчасці Максіма Багдановіча ў школе.
Мішчанчук М.І. і інш. Беларуская літаратура ў 11 класе.
Ляшук В.Я. Вывучэнне трылогіі Якуба Коласа ў школе.
Лявонава П.І. Беларуская літаратура. Тэсты. 5 клас.
Лявонава П.І. і інш. Беларуская літаратура. Тэсты. 6 клас.
Слесарава І.М. і інш. Беларуская літаратура. Тэсты. 7 клас.
Ляшук В.Я. і інш. Беларуская літаратура. Тэсты. 8 клас.
Ляшук В.Я. і інш. Беларуская літаратура. Тэсты. 9 клас.
Ляшук В.Я. і інш. Беларуская літаратура. Тэсты. 10 клас.
Ляшук В.Я. і інш. Беларуская літаратура. Тэсты. 11 клас.
Малажай Г.М. і інш. Зборнік тэкстаў для пераказаў, 9-11 класы.
Сушко М.А., Саматыя І.М. Зборнік дыктантаў па беларускай мове, 5-9 класы. Пад рэдакцыяй Міхайлава П.А. Беларуская мова: дыктанты, пераказы, пераклады, 5 клас.
Пад рэдакцыяй Міхайлава П.А. Беларуская мова: дыктанты, пераказы, пераклады, 6 клас.
Пад рэдакцыяй Міхайлава П.А. Беларуская мова: дыктанты, пераказы, пераклады, 7 клас.
Красней В.П. і інш. Беларуская мова ў 4 класе.
Грыцкевіч Л.С. і інш. Дыдактычны матэрыял па беларускай мове, 7 клас.
Лаўрэль Я.М. Дыдактычны матэрыял па беларускай мове, 9 клас.
Рэпенка І.У. Зборнік тэстаў па беларускай мове для 5-7 класаў.
Пад рэдакцыяй Ляшук В.Я. Беларуская літаратура ў 4 класе.
Малажай Г.М. Беларуская мова (матэрыялы да экзаменаў).
Булыка А.М. Арфаграфічны слоўнік для школьнікаў.
Булыка А.М. Беларуска-рускі слоўнік для школьнікаў.
Булыка А.М. Руска-беларускі слоўнік.

Падрыхтаваны і ў другой палове навучальнага года ў школы паступіць новы зборнік экзаменацыйных матэрыялаў па беларускай мове за курс базавай школы. У 2001/2002 навучальным годзе экзамен па беларускай мове за курс базавай школы будзе праводзіцца толькі па гэтым зборніку.

У гэтым навучальным годзе ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі запланавана правядзенне трох рэспубліканскіх семінараў для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Так, у першым квартале года пройдзе семінар па тэме "Пытанні пераходу на новы змест моўнай і літаратурнай адукацыі", на якім будуць разгледжаны актуальныя пытанні выкладання мовы і літаратуры, прымянення гуманітарных адукацыйных тэхналогій у працэсе вопытна-эксперыментальнага навучання, методыка правядзення дыягнастычных зрэзаў, тэсціравання, кантрольных работ, асобасны, матывацыйна-мэтавы падыход да навучання беларускай мове ў сярэдняй школе, шляхі ўдасканалення маўленчай практыкі вучняў, фарміраванне творчых здольнасцей.

Сучасныя тэхналогіі навучальна-выхаваўчага працэсу, іх прымяненне на розных этапах урока мовы і літаратуры будуць разгледжаны на рэспубліканскім семінары ў другім квартале. Аб новых падыходах да выкладання беларускай літаратуры ў старэйшых класах пойдзе размова на семінары, які адбудзецца ў IV квартале года (тэл. для даведак 285 - 78 - 26, 222 - 64 - 92).

Вызначальным пытаннем, над якім у гэтым навучальным годзе будуць працаваць настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, з'яўляецца пытанне паляпшэння якасці ведаў вучняў, павышэння іх моўнай этыкі і культуры. Аднак пытанні, акрэсленыя для разгляду на рэспубліканскіх семінарах, таксама павінны быць у полі зроку школьных і раённых метадычных аб'яднанняў настаўнікаў.

**Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі.**

